# ПАГОНЯ

Цэна № — 1 аукс.

ГРАМАДЗКАЯ, ПАЛІТЫЧНАЯ І ЛІТЭРАТУРНАЯ ЧАСОПІСЬ

ВЫХОДЗІЦЬ ЧАСОВА РАЗ У ТЫДЗЕНЬ.

Абвесткі ўселякага размеру прыймающца коштам за радок маленькага друку 2 залатых на апошняй страніцы незалежна ад зьместу.

**Адрэс рэдакцыі і канторы:** Вуліца Адама Міцкевіча, 13-а. Тэлефон № 23.

Рэдакцыя адчынена што дзень ад 1—3 гадз. Кантора адчынена што дзень ад 9—3 гадз.

**Падпіска каштуе:** на 10 № № ўпярод — 10 зал. „ 5 „ „ — 5 „ Кошт асобнага № — 1 „

**Рукапісы** ня прынятыя да друку назад не вертаюцца; прынятыя аплачаваюцца па пагляду Рэдакцыі.

**№ 11.** | **Коўна, Чацьверг 14 Кастрычніка 1920 г.** | **Год І-шы.**


# Адозва

## Беларусы-селяне!

Час і беларусу-селяніну голасна заявіць, што ён знае, хто ён ёць і што ён чэлавек, а ня „быдло“, як звыклі называць яго чванныя польскія пэны, разсеўшыяся па маёнтках нашага краю.

Хоць над нашымі дзядамі і прадзедамі і панавалі каты, хвалячыяся сваёй „культурай“, але ад той „культуры“ нам было цёмна, галадна і холадна, ад той культуры заплывала наша бацькаўшчына кроўю і потам земляробаў.

Зноў у апошнія часы парываецца да нас „культурны“ жандарм, з рамені яго выглядае тая катоўская „культура“, у руках яго стрэльба і пуга, а за плечамі „культурны“ каланіст.

ДА ГУРТУ СЕЛЯНЕ! ГУРТУЙЦЕСЯ Ў ХАЎРУС, КАБ БАРАНІЦЬ СЯБЕ, СВАЮ ЗЯМЕЛЬКУ І СВАЮ БАЦЬКАЎШЧЫНУ.

Калісь у даўнейшыя часы наша Бацькаўшчына была магутнай, вольнай і багатай, алё зьнявечылі яе каты.

Цяперака прыйшоў час супольнага адраджэньня з братам нашым літвіном.

Гэты час слаўны, але і страшны. ДА ГУРТУ! ГУРТУЙЦЕСЯ Ў ХАЎРУС!

Калі страцім гэты час, то можа ён і ня вернецца, а другога гэткага часу і ня будзе.

Літвіны цяжка працуюць над адраджэньнем нашай супольнай Дзяржавы, АБ РУКУ З ІМІ БУДЗЕМ ПРАЦАВАЦЬ І МЫ, КАБ НЕ ДАСТАЛАСЯ НАША ЗЯМЕЛЬКА ПОЛЬСКАМУ КАЛАНІСТУ З ТАГО БОКУ БУГУ....

Наша зямелька, каторая паіла катоў нашых мёдам, а сама напівалася кроўю і потам прадзедаў нашых, заве нас: „РАТУЙЦЕ-БЕЛАРУСЫ, СВАЮ МАТКУ, НЕ ДАЙЦЕ МЯНЕ НАЕЗДНІКАМ.“

Да гурту беларусы-селяне! Еднайцеся ў хаўрус! Земля наша і воля наша ў Літоўскай Дзяржаве, Устаноўчы Сойм каторай 11 жніўня 1920 году пастанавіў закон аб тым, каб вайсковыя абароннікі зямлі, а так сама беззямельныя і малазямельныя жыхары, усе атрымалі-б зямелькі з маёнткаў, паказаных тым законам: ЗЕМЛЯ—ЗЕМЛЯРОБАМ! — вось які гэты закон.

Але не хавайцеся па хатах, не кажыце: „мая хата з краю“. Еднайцеся ў хаўрус, каб і блізкія і далёкія пабачылі, што жывуць яшчэ Беларусы, што польская катаўская пуга ня ўбіла нашых душы і мовы і не загубіла нашага нацыянальнага духу, каб увесь сьвет пачуў, што БЕЛАРУСУ НЯ ТРЭБА КАТАЎСКАЙ „КУЛЬТУРЫ“, ШТО ЁН САМ СУМЕСТНА З БРАТАМ ЛІТВІНАМ МАЕ І СВАЮ ДАРОГУ І СВАЮ КУЛЬТУРУ.

ДА ГУРТУ! ЕДНАЙЦЕСЯ!

**Ініцыатыўны гурток Беларускага Селянскага Хаўрусу.**

Вільня, 7 кастрычніка 1920 г.

Ва ўсіх справах зьвертайцеся да свайго Міністэрства Беларускіх Спраў у Коўне, вул. Міцкевіча, 13 а.

---

*Коўна, 14 кастрычніка.*

Наш край, які яшчэ на гэтых днях быў арэнаю страшэннай крывавай барацьбы, які яшчэ не пасьпеў змыць сьляды крыві са сваіх палёў, стаўся арэнаю яшчэ нявіданных палітычных авантур, прыдуманых у Варшаве, дзе і былі разданы ролі і засталіся галоўныя палітычныя рэжысёры. У Горадне зарганізаваны „Урад Паўднёвай Літвы“ ў Вільні—„Урад Сярэдняй Літвы“ і г. д. і г. д. Мы ня будзем пералічаваць усіх назоваў новых „урадаў“, ведаючы, што з пагляду міжнародавага права ня можна адносіцца сурьёзна да гэтага крывавага шутаўства, але нас ахоплівае глыбокі сум, што усе гэтыя экспэрымэнты робяцца там, дзе жыхарства толькі што прынялося за творчую працу і кожная новая авантура вельмі нарушае ход эканамічнага і дзяржаўнага жыцьця. Захватчыкі самі ня тояць, што іх падбівае моцная імпэрыялістычная сіла, якая прыдумавае апраўданьне захвату ўжо пасьля самага захвату—тыпічная палітыка ўкраінскіх атаманаў, яшчэ на практыцы няведамая Літве і Беларусі. Прыкрываючыся то штандарам „балахоўшчыны“, то „бэрмантоўшчыны“, то Савінкаўскіх фармаваньняў, захватчыкі стараюцца апраўдаць сваё прабываньне ў тым ці іншым Літоўскім месьце фармаваньнем мясцовых урадаў такіх жа чужых мясцоваму жыхарству, як і самі захватчыкі.

Дзеля чаго патрэбен увесь гэты брыдкі машкарад? Дзеля каго ён патрэбен? Самаму далёкаму ад палітыкі чалавеку ясна, што гэна ёсьць просты зьдзек над мясцовым жыхарствам, якога ня было ад каго звальняць пераадзетым салдатам. Простымі праклямацыямі і вокрыкамі на жыхарства немагчыма прыкрыць адзінага права на захват, на які апіраюцца насільнікі — гэта права сілы, справедлівей насільля. Але ці ёсьць гэта сіла, перад якою належыць скланіць галаву і прызнаць сябе зможаным. Не, тысячу раз не. Давыд змог Галіафа вераю ў сваё права, вераю ў тое, што справедлівасьць стаіць у яго за плячамі, а не ў насільніка. Такою-ж сілаю веры ў тое, што Літва з'яўляецца адзіным Гаспадарствам, да якога прыхільна адносіцца жыхарства захопліваемых краёў, з'яўляецца і наша сіла. Мы верымо ў тое, што як бы ні была цяжкая часовая авантура, ўсё-ж яна тымчасовая і недалёка той дзень, калі ўсё тое, што захоплена насільнікамі, ўзноў пяройдзе да нас. Літва не хвалліцца пэрад сьветам мільёнамі штыкоў і нідзе і ніколі не брала сваіх правоў грубаю сілаю, але той, хто чэстно глядзіць на тое, што зрабілося ў апошнія тыдні, павінен згодзіцца з намі, што ў мясцовасьцях польскіх і бальшавіцкіх акупацыяў на кожнага літоўскага салдата глядзелі, як на збавіцеля. У гэтым наша сіла і з ёю мы здалеем. Дзіця можа быць адарвана на даўгі час ад маткі, але што-б з ім не выраблялі разлучнікі, яно заўсёды працягне сваі рукі не да чужых людзей, а да роднай маці. Гэна павінны добра памятаць тыя, хто думае, што вайсковай сілай можна парваць кроўную зьвязь жыхарства з тымі, каго яно ніколі не перастане клікаць на дапамогу.

---

# Весткі аб віленскай авантуры.

Асоба, толькі што прыехаўшая з Вільні і перажыўшая там усё, што тварылося, пераказавае нам гэткія весткі:

### Жудасныя гадзіны.

Такіх гадзін было 3 ці 4 паміж часам, калі горад пакідалі Літоўцы і займалі Палякі. Мясцовая чэрнь, прыгарадныя басякі і яшчэ німа ведама скуль узяўшыяся нейкія абарванцы, словам, усётое, што, цяперака завецца на фронце „польскімі партызанамі“, на працягу 3-4 гадзін трымалі горад у сваіх разбойнічых руках. Жыхары хаваліся па хатах, ніхто ня меў адвагі паказацца на вуліцы; карыстаючы з гэтага, „партызаны“ заняліся рабаваньнем крамаў, магазынаў і нават прыватных кватэр. Аб тым, што гэтыя „партызаны“ былі арганізаваны, што імі кіравала нейкая суцэльная сіла, сьведчыць той факт, што сярод абарванцаў спатыкаліся і ня дрэнна ўбраныя людзі, каторыя паддавалі сьмеласьці чэрні выкрыкамі: „Шукай Літоўцаў! Бій Літоўцаў!“

### Крыху не трапілі.

У часе пагромнага чаду, частка „партызанаў“, убачыўшы нямецкі сьцяг на гэрманскай місыі, падумалі, што гэта літоўскі і кінула ў тую кватэру ручную гранату, не зрабіўшую, праўда, ніякай шкоды.

### Склад войска, заняўшага Вільню.

Войскі, заняўшыя горад, называюць сябе „Асобным Атрадам Віленцаў“. Сярод гэтых „віленцаў“ ёсьць пазнанскія стрэлкі, рэгулярныя польскія войскі, мешаніна формаў і

адзежы адразу змушае зразумець, што так ахрышчаныя „Віленцы“ складзены з самых рознавабразных вайсковых часьцін. Паміж іншым ёсьць нямала сярод гэтых салдатаў з расейскімі трохкалёрнымі стужкамі на каўнерах (петліцамі), як відаць з атраду вядомага Балаховіча, але гавораць гэтыя солдаты паміж сабой папольску.

## Адносіны жыхароў да акупантаў.

Як паказаваюць тыя, што бачылі на свае вочы ўсё збыўшаеся ў Вільні, адносіны жыхароў да новых акупантаў вельмі нявыразныя. Беларускае і жыдоўскае насяленьне не адзін раз за апошнія дні даводзіла свае прыхільныя адносіны да Літоўскага Ураду, да акупантаў адносіны халодныя, калі ня болей таго; што датычэ польскага населеньня, то яно глядзіць на цяперашняе заняцьце Вільні, як на часовую авантуру і дзеля таго, што склад войскаў ёсьць нейкая мешаніна, так сама адносіны ня зусім даверчывыя.

## Ня прызнаюць.

У нас яшчэ нямаш акуратных запэўненьняў гэнага факту, але калі верыць зусім праўдападобным слухам, на спатканьне першага атраду, што ўходзіў у Вільню, выехаў прэдстаўнік Французскай місыі паўкоўнік Рэбуль, каторы заявіў кіраўніку атраду, што місыі Антанты ня прызнаюць права акупантаў на насільнае заняцьце Вільні. У адказ на гэта кіраўнічы склад атраду сказаў, што яны сваім чарадом ня прызнаюць за місыямі Антанты права ўмешавацца ў гэтую справу.

Ва ўселякім выпадку, як падьверджэньне гэнага „узаемнага няпрызнаньня“ можа быць той факт, што ўсе чужаземныя місыі пакідаюць Вільню і пераезджаюць у Коўну.

## Урад Сярэдняе Літвы.

Стварыўшыся ў Вільні „Урад“ на чале з гэнэралам Жэлігоўскім, Абрамовічам і др., называе сябе „Урадам Сярэдняй Літвы“, як відаць, каб адрожніць ад другога такога, на скорую руку сфабрыкованага у Горадні „Ураду Паўднёвай Літвы“.

Адным з першых актаў „Ураду Сярэдняй Літвы“, было выданьне дэкрэту аб тым, каб усе астаўшыяся ў Вільні Літоўскія чыноўнікі зараз жа выезджалі назад у Коўно, бо іначай іх інтэрніруюць.

# Палітычная хроніка.

Калі судзіць па апошнім савецкім газэтам, паражэньне на польскім фронце вызвала страшэнны сум у бальшавіцкіх сфэрах. Гэльсінгфорскія газэты перадаюць, што Ленін заявіў на адным з апошніх пасяджэньняў Савету Народных Камісараў: „Я сам выеду на фронт, каб кіраваць вайскамі. Я хачу лепей быць забітым на фронце, ніж загінуць у часе паўстаньня, якое няміначa, калі мы пацерпім яшчэ такое паражэньне“.

Бэрлінскія газэты паведамляюць, што за апошнія дні Врангель меў цэлы рад вялікіх пабед, дзякуючы развалу ў бальшавіцкіх войсках на паўднёвым фронце.

Па неправераным яшчэ весткам, ідучым з Рыгі, каля Маладэчна завязаліся баі паміж бальшавіцкімі і польскімі вайскамі, пры чым бальшавікі мелі пабеду.

Па весткам шведзкай прэссы, Англія намерана частку тавараў, паперш намечаных Савецкай Расеі, адправіць у Літву, Латвію і Эстонію.

Як паведамляе Лёндански карэспандэнт „Berliner Tageblatt-a“, у зьвязку з апошнімі выступленьнямі Польшчы проціў Літвы, ў Лёнданскіх палітычных сфэрах зусім умацавалася недаверые да польскай палітыкі, якое пачало выяўляцца ўжо даўно.

## Інтэрвью з Міністрам (па беларускім справам) п. Семашко.

На мінуўшым тыдні, ў прамове з адным з супрацоўнікоў віленскай газэты Міністэр па беларускім справам п. Семашко так ахарактарызаваў становішча беларускага пытаньня на Літве і Беларусі: „Мы, беларусы, грамадзяне Літвы(у межах адзначаных мірным трактатам ад 12 ліпеня 1920 г.), лічым Літву сваёю Бацькаўшчынаю і таму прыступілі да будаўніцтва на гэнай тэрыторыі демократычнай Літоўскай Рэспублікі, моцна веручы, што ўсе населяючыя яе народнасьці будуць мець поўную магчымасьць усебаковага развіцьця як нацыянальнага, так роўна і эканамічнага. Да ўсіх грамадзян, у тым ліку, разумеецца, і да палякоў мы адносімся вельмі прыхільна. Але ў той самы час з другога боку, адносіны нашы да Польскага гаспадарства, прымаючы пад увагу яго імперыялістычную палітыку, зусім іншыя.

Што датычыцца істнуючага Ураду Беларускай Народнай Рэспублікі, то некаторыя сябры яго, на чале са Старшынёй Кабінэту Міністраў п. Ластоўскім, пражываюць у Рызе, а іншыя ў Празе і Бэрліне.

Ідэя беларускай дзержаўнасьці бязумоўна жыве сярод беларускага народу, каторы сам дамагаецца незалежнага істнаваньня, і раздзел занімаемай ім тэррыторыі паміж Расеяй і Польшчай будзе заўсёгдашнім яблыкам здору паміж імі.

Я зьвертаў на гэта ўвагу ў часе майго прабываньня ў Маскве, дзе быў як дэлегат Літоўскай Мірнай дэлегацыі. Пры ўсім тым, будуючы незалежнае гаспадарства, беларусы жадаюць фэдэрацыі з Літвой, бо і Меншчына і Магілеўшчына эканамічна цягне да Літвы. Падобна таму, як рэкі, дорогі, і чыгункі маюць напрамак да Балтыкі, так думкі і вочы беларусаў зварочаваюцца на захад да Літвы.

Мы жадаем нашым братом поўнага усьпеху ў іх дамаганьнях, аднак-жа самі, лічучы сябе грамадзянамі Літвы, наўперад усяго прымаем самае дзейнае учасьцьце ў яе адбудаваньні—большага на сябе ўзяць ня можам.

Другія напрамкі беларускай палітычнай мыслі не зьвертаюць на сябе асаблівай увагі. Сярод іх можна адзначыць гурток п. Алексюка, бэзпрынцыповага кар'ерыста, каторы шукае апоры у Польшчы. Наагул напрамак да Польшчы ня мае сярод беларусоў ніякага спагаданьня.

За пабеды у Ліпені гэтага году і так шпаркае наступленьне бальшавікі ў значнай меры павінны дзякаваць беларусам-селянам, каторыя рабілі паўстаньні ў розных мясцох у тылу польскіх войскаў, псавалі дарогі, разбіралі масты і г. д.

У рэпліце аб віленскім беларускім камітэце і разам з тым аб Радзе Віленшчыны і Горадзеншчыны п. Міністэр адазваўся вельмі іранічна. Камітэт гэты надта лёгка перанес усе акупацыі і ў адносінах да кожнай патрапіў захаваць сваю лайяльнасьць, выносячы адпаведную да кожнага момэнту рэзалюцыю.

Немагчыма пачуваць да такога Камітэту павагу, а асабліва да яго Старшыні Антона Луцкевіча, неспагадальнасьць которага да Літвы і да літоўцаў выказалася у мэморыяле, паданым Вышэйшай Радзе у Парыжы у канцы 1919 г. Рада Віленшчыны і Горадзеншчыны, выбраная у часе польскай акупацыі, пад вядомым уплывам, разумеецца, ня можа выказаваць шчырага настрою беларускага грамадзянства.

Супраўднымі прэдстаўнікамі беларускага насяленьня будуць толькі дэпутаты, што будуць выбраны ў Устаноўчы Сойм Літвы.

# Палітычны абгляд.

Эўрапэйскі друк яшчэ не пасьпеў адклікнуцца на тое, што робіцца цяпер у Літве, а заняты больш тым, што так неспадзявана прыйшоў канец перагавораў у Рызе. Бэрлінскі друк запэўняе, што дзіцячым было б такое спадзяваньне нейкіх там рэальных выпрашэньняў ад перагавораў, у часе каторых і расейскія і польскія дэлегаты больш прыслухоўваліся не да прамоў на пасяджэньнях, а да тэлеграм з фронту. „Matin“ называе канец перагавораў капітуляцыяй Іоффе перад Домбскім. «Times» наадварот, лічыць, што Домбскі не патрапіў дабіцца усяго таго, што яму было даручана, дзякуючы, як кажа газэта „такой вельмі перапалоханай уступчывасьці Іоффе, да | каторай нябыў загадзя нарыхтованы Домбскі“.

І запраўды, калі нават дыплёматыю ўважаць за далёкую ад шчырасьці, усё-ж такі, хоць якая небудзь частка жаданьн абярнуць словы ў дзела павінна быць у кожнага дагаварываючагося на рыжэскай канфэрэнцыі. Мы бачым делегатаў, каторыя самі ня верылі у тое, што імі прапанавалася ці прыймалася. Ва ўсякім выпадку цяперака можна з пэўнасьцію сказаць, што рыжэская канфэрэнцыя ня прынесла ня толькі міру, але нават і гадзіны замрэньня.

Не малую ўвагу зьвертае эўрапейскі друк і Врангелеўскаму фронту. Там, як відаць, падзеі пашыраюцца і, як думае „Berliner Tageblatt“, гэтымі днямі не адзначыўшаяся добра барацьба арміі Врангеля з бальшавікамі, павінна перайсьці у вялікія баі, ад каторых залежыць уся доля паўднёвага фронту. Цэнтральным стратэгічным пунктам робіцца ст. Сінельнікова, каторая пераходзіць з рук у рукі. Цікава адзначыць, што ангельскі і нямецкі друк за апошнія дні стаў значна паважней выяўляць адносіны да арміі Врангеля, як да ваеннай сілы і як і раней маўчыць аб Врангелю, як аб палітыку.

Раздуваемыя савецкім друкам весткі аб выступленьнях рабочых у Англіі не адпавядаюць таму, што ёсьць.

# БРАТЫ-БЕЛАРУСЫ!

Брахлівыя і гордыя польскія паны ідуць на нас вайною, абманам хочуць захапіць нашу зямельку, нашы хаты.

Уставайце тады, Браты, на абарону роднай зямлі, уставайце бараніць нашы родныя палі, лясы, нашу вольнасьць.

Уставайце, хлопцы, сядлайце канёў, бярэцеся за аружжа, гуртуйцеся ў атрады, рабіце сьвязь паміж сабою і зорка сьлядзіце за ворагам, каторы каля вас ходзіць.

Уставайце, кабеты, выпраўляйце мужоў, братоў і сыноў бараніць свае хаты.

Уставайце, дзяучаты, выпрауляйце айцоў, жаніхоў і братоў бараніць вашу чэсьць.

Падымайцеся, старыя, навучыце маладых, як трэба бараніць родную зямельку, а самі зьбірайце грошы, вопратку, обуў і хлеб для вашых-жа сыноў і братоў, што ідуць выганяць чужынцоў.

Уставайце усе ад малога да старога бараніць нашу супольную Бацькаўшчыну —Літву!

Польскія паны лічаць нас быдлам, высьмеіваюць нашу мову; яны хочуць зноў вярнуць нам паншчыну, і нашай працай дарма далей карыстацца.

Мы, беларусы, літоўскія грамадзяне, зьбіраемся з розных вёсак і мест бараніць нашу Літоўскую Дзяржаву.

Гуртуйцеся ў Беларускія Атрады Зьвязку Літоўскіх Стрэльцоў. Усе, хто любіць сваю родную зямельку, сваю родную сямью, сваю хату і сваю гаспадарку, усе, хто мае адвагу і сілу,—усе зьбірайцеся да нас. Рабіце гурткі і атрады стрэльцоў у кожнай вёсцы, у кожнай парахфі і воласьці і аб гэтым паведамляйце Цэнтральную Ўладу (*Коўна, вул. Міцкевіча, № 13-а, Міністэрства Беларускіх Спраў*). Тут атрымаеце стрэльбы, кулямёты, гарматы і інш. аружжа. Хто ня мае цёплай адзежы, атрымае тут. Дзеля атрыцьця атраду патрэбна ня меньш трох чэлавек Арганізатары выбіраюць камандзера. Цэнтральная Ўлада зацьвярджае аткрыты атрад і яго камандзера. Аткрыты адрад, не чакаючы адказу Цэнтральнай Ўлады, уваходзіць у кантакт з міліцыей на мясцох, памагаючы ёй падтрымліваць парадак і нясьці ахрану Дзяржавы.

**Зьвязак Літоуска-Беларускіх Стрэльцоў.**

Выдавецтва і рэдакцыя: Стол Друку Міністэрства Беларускіх Спраў. Коўна, Вуліца Адама Міцкевіча, 13а.

ДРУКАРНЯ А. БАКА і Х. МАНКЕС, КОЎНА.